Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Вострабрамская 2—11 (Wilno, Ostrobramska 2—11). Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал. на пайг. 1 зал. на 3 м-цы 50 гр.

№ 6 (15) Вільня, 5-га травеня 1937 г. Год II.

## Чым замяніць капіталізм?

Капіталізмам называюць такі грамадзкі лад, які апіраецца на капітале, зграмаджаным у вялікай колькасьці ў прыватных руках. Капіталістычны лад праяўляецца ў выразнай форме на пачатку мінулага стагодзьдзя, калі вынаход машыны даў магчымасьць закладаць фабрыкі і тварыць прамысловыя цэнтры. Даўней кожны працаўнік, маючы трохі грашовага капіталу, мог залажыць сваю майстэрню і злучыць свой капітал з працаю. З вынаходам машыны і ўвядзеньнем машынавага вытворства залажыць фабрыку для простага работніка было ўжо трудна і за гэта бяруцца людзі, маючыя капітал у вялікай колькасьці. Яны будуюць фабрыку, стаўляюць машыны і наймаюць работнікаў, якія за плату даюць ім сваю працу. Такім парадкам творыцца з аднаго боку кляса капіталістаў, а з другога — кляса пралетарыяту.

Каб лепш зразумець капіталістычны лад, мы павінны выясьніць, *што такое капітал*?

Капіталам найчасьцей называюць грошы, хоць гэта ня зусім правільна. Грошы толькі тады ёсьць капіталам, калі за іх можна купіць усе патрэбныя прылады да сарганізаваньня фабрыкі ці якога іншага прадпрыемства. Уласьнік фабрыкі або прадпрыемства, калі нават і ня мае грашэй, завецца аднак капіталістам. Значыць, капітал ня ў грашах, а ў чым іншым.

*Капіталам завуць у эканоміцы ўсе прылады або сродкі, якія служаць вытворчасьці*, напр. фабрычныя (дворныя) будынкі, машыны, плугі, трактары, малатарні, жняяркі і г. д. Такім парадкам капіталам можа быць кожнае дабро, пры помачы якога можна павялічыць гэтае дабро. Капітал, будучы вытварам, можа паўстаць ня інакш, як толькі пры помачы двух асноўных дзейнікаў вытворчасьці: працы і прыроды. Прырода дае сыры матэр'ял (сыравіну), а праца з гэтай сыравіны вырабляе прылады для далейшай вытворчасьці. Збожа, напрыклад, ня ёсьць капіталам, калі яно служыць на пракорм для гаспадароў або жывёлы, але ёсьць капіталам, калі яно прадаецца або заменьваецца на прылады вытворчасьці (машыны, жывёла і г. д.)

Значыць, каб з вытваранага пры помачы працы і прыроды дабра паўставаў капітал, трэба, каб гэтае дабро ня было спажыта, але каб часьць яго асталася. Іншымі славамі, капітал паўстае дзеля таго, што лік вытваранага дабра перавышае лік спажытага. Лішка гэта можа паўстаць або дзеля таго, што вытворства ёсьць большым ад запатрэбаваньня, або дзеля таго, што спажываньне агранічана і ўведзена ашчаднасьць.

Паводле сацыялістычнай школы (Маркса, Ласаля і інш.) капітал паўстае з тэй прычыны, што работнік працуе на фабрыканта болей, чым атрымлівае на сваё ўтрыманьне. Праца работніка мае надвартасьць, якую пры прадажы прадукту бярэ прадпрыемца для сябе. Паводле сацыялістаў (камуністаў) капіталам ёсьць кожнае дабро, якое прыносіць уласьніку даход бяз працы. Такі лад, пры якім прадукт працы не належыць цалком да работніка, але такжа і да фабрыканта, завецца капіталізмам.

Так ці інакш трэба сьцьвердзіць, што пры капіталістычным ладзе як прылады вытворчасьці не знаходзяцца ў уладаньні работнікаў, так і іхная праца; гэтыя дзейнікі належаць да прадпрыемца (капіталіста), які з уложанага капіталу і з працы работнікаў цягне для сябе вялікія зыскі і павялічвае свой капітал. Скромныя прылады работніка (малы капітал) уцякае ад яго і пераходзіць у рукі капіталістаў, якія пераймаюць усё гаспадарчае жыцьцё. Гэта і ёсьць капіталістычны лад.

Гэты лад аказаўся вельмі крыўдным для працоўных, бо з аднаго боку ўтварылася невялікая кляса капіталістаў (уласьнікаў капіталу), а з другога боку — вялікая маса пралетарыяту, які ня мае ніякага капіталу, апроч фізычных і духовых сіл, якія за плату аддае на ўслугі чужому капіталу.

Значыць, *капіталізм трэба адкінуць у імя грамадзкай справядлівасьці*, але што зрабіць з капіталам?

Некаторыя кажуць, што капітал трэба зьнішчыць, бо ён прычыняецца да падзелу людзей на клясы, на багатых і на бедных. Аднак гэткі падыход да справы памылковы. Капіталу нішчыць ня можна, толькі трэба завесьці лепшы, справядлівейшы спосаб карыстаньня з яго. Капітал (прылады вытворчасьці) ашчаджае чалавеку сілы і працу, даючы магчымасьць вытварыць у тым-жа часе болей дабра, чым рукамі. Пры помачы капіталу мы можам апанаваць магутныя сілы прыроды, упрагчы іх у помач сабе або перамагчы перашкоды, якія яна нам ставіць. Маючы прылады вытворчасьці, само вытворства робіцца лягчэйшым і болей разнаякім, бо чалавек пры помачы прылад можа лягчэй апанаваць сілы прыроды і тварыць штораз новыя галіны прадуцкыі. Дзеля гэтых прычын капіталу нішчыць ня можна, а толькі трэба завесьці такі грамадзкі лад пры якім ня было-б вызыску і эксплёатацыі адных другімі.

Процiў сяньняшнага капіталістычнага ладу выступілі: спачатку сацыялізм, а потым, у болей рашучай форме камунізм. Але трэба прызнаць, што як адзін так і другі не далі чалавецтву такога ладу, які-б заспакоіў яго патрэбы. Праўда, сацыялізм далей тэорэтычных разважаньняў ня выйшаў і нідзе свайго ладу ў практыцы не заводзіў (ягонай заслугай ёсьць тое, што ён падняў справу змаганьня з капіталізмам); затое камунізм, здабыўшы ўладу на вялікіх абшарах д. Расеі, пачаў завадзіць сац. лад усімі магчымымі спосабамі, не адкідаючы нават найвышэйшай кары на праціўнікаў новага ладу — кары сьмерці. Аднак пасьля 20-гадовай працы ня змог збудаваць такога ладу, які-б мог здаволіць найважнейшыя патрэбы грамадзянства: паводле зусім пэўных вестак там пануе такая самая галіта працоўных мас, як і ў капіталістычных краінах. Адчуваецца вялікі недахват ежы, адзеньня, фабрычных тавараў і наагул прадуктаў першай патрэбы, І гэта пасьля двух пяцігадок, пасьля 10 гадоў пляновай інтэнсыўнай працы ўсяго партыйнага і дзяржаўнага апарату, маючы прыгэтым усе прыродныя багацьці аграмаднай Расеі! Значыць, з камуністычным будаўніцтвам нешта не ў парадку, ёсьць нейкія прычыны, якія перашкаджаюць яго ўвесьці ў жыцьцё. Павадыры камунізму стараюцца зваліць віну за свае няўдачы на буржуазію, куланоў, сабатажнікаў, а ў апошнім часе на трацкістаў, але кожны разумее, што прычын няўдач трэба шукаць яшчэ ў чым іншым

На наш пагляд галоўныя прычыны няўдач у кам. будаўніцтве такія: 1) *непадгатаванасьць* чалавечай натуры агулам да камуністычнага будаўніцтва і заводжаньне новага ладу *сілаю*, без належнае псыхолёгічнае падгатоўкі. А як ведама, чалавецтва ня хоча і ня можа так лёгка мяняць таго ладу, з якім зжылося. 2) Новы лад не даваў тых карысьцяў, якіх народ жадаў і якіх спадзяваўся па рэвалюцыі. Замест падзелу зямлі, камуністы ўвялі *дзяржаўны капіталізм*, пры якім вялікая часьць фабрычнага і зямельнага вытворстаа ішла на карысьць дзяржавы (так як даўней ішла на карысьць капіталістаў). А трэба сьцьвердзіць, што работнікі (сяляне) яшчэ не падгатаваны да таго, каб працаваць на карысьць дзяржавы і каб павялічыць дзяржаўны капітал коштам сваей цяжкой працы. Натугі падзіночных людзей (стаханаўцаў) тут мала памагаюць. 3) Дзяржаўная ўлада знаходзіцца ў руках ня ўсяго народу, а *аднэй партыі*, якая становіць толькі 2 прац. усяго насельніцтва (на 170 мільёнаў насельніцтва толькі каля 3 мільёнаў камуністаў), а ведамая рэч, што непартыйныя людзі на партыю працаваць ня хочуць. 4) У гэтай партыі, якая займае пануючае становішча, дзеюцца часта *надужыцьці* (арыштаганы нядаўна б. начальнік ГПУ Ягода быццам украў ці пусьціў мільён рублёў золатам); гэтыя надужыцьці, „здрады» і працэсы камуністычных павадыроў зьнеахвочваюць насельніцтва да кам. будаўніцтва.

Можна было-б налічыць яшчэ многа прычын няўдач кам. будаўніцтва, але і гэтых даволі, каб сьцьвердзіць поўную няўдачу ўсіх натугаў у кам. будаўніцтве. Значыць, *камнізм, як тэорыя грамадзкага ладу, ня здаў у практычным жыцьці экзамену, так як ня здаў яго і капіталізм*.

З гэтага вывад, што трэба пашукаць новай формы грамадзкага ладу, які-б з аднаго боку зносіў цяперашні капіталізм, а з другога боку — не ламаў гвалтоўна дагэтуляшніх навыкаў чалавецтва. А гэтым ладам ёсьць **каапэратывізм**.

Пры капіталістычным спосабе вытворчасьці, як мы ўжо бачылі, мае вялізную перавагу над працай буйны капітал, які знаходзіцца ў руках багачоў і які надвартасьць працы бярэ ў сваю карысьць; пры камуністычным — надвартасьць працы ідзе на карысьць дзяржавы (партыі), а пры каапэратывізьме даход ідзе на карысьць тых асоб, якія злучыліся (злучылі свае прылады працы або капітал) дзеля супольнай вытворчасьці або ўзаемнай помачы.

Але аб формах каапэратывізму і яго асновах у наступным нумары.

## Польска-літоўскі спор і Беларусы.

У апошнім часе польска-літ. спор выклікаў ізноў заінтарасаваньне палітычных кругоў. Прычынай гэтага заінтарасаваньня былі ня толькі заявы міністраў Бэка і Лозорайтіса, аб якіх мы пісалі ў „Б. Фр.“, але і жаданьне Францыі пагадзіць Польшч з Літвою. У гэтай справе франц. міністар загр. спраў Дэльбос гаварыў з мін. Бэкам, а потым быў у Парыжы і мін. Лозорайтіс, што дало прэсе аказію да розных дагадак і высноваў. Прычына, дзеля якой Францыя хоча давесьці да літ-польскай згоды, крыецца ў тым, што Саветы, заключыўшы з Літвою саюз, хочуць у гэты саюз уцягнуць і другія балтыцкія дзяржавы (Латвію і Эстонію), прычым Саветы хочуць над Балтыкай збудаваць проціўпольскі блёк на чале з Літвою. Гэтакая палітыка Саветаў не на руку Францыі, якая хацелаб відзець увесь усход Эўропы ў адзіным проціўнямецкім блёку, але на перашкодзе да гэтага стаіць польска-літ. спор.

Якое вялікае значэньне мае гэты спор і ў якіх кірунках ён пайшоў, відаць з галасоў прэсы.

І так, кракаўскі „Ilustr. Kur. Codzien“.(№ 98) у артыкуле „Літва заключыла вайсковы саюз з Саветамі проціў Польшчы“ прынёс многа сэнсацыйных вестак на гэту тэму. У гэным артыкуле гаворыцца, што Саветы хочуць адасобніць балтыцкія дзяржавы ад Польшчы, але гэта ім удаецца толькі адносна Літвы. У мінулым годзе быў у Маскве шэф літ. штабу, палк. Чэрнюс, а нядаўна адведаў Літву савецкі маршал Егораў, які заўсёды адзначаў добрасуседзкія адносіны паміж Саветамі і Літвою. Але цікава і тое, што з марш. Егоравым быў кап. Пінчэўскі, які працуе ў польскім аддзеле савецкай разведкі... і які ёсьць сваяком Юзэфовіча, начальніка акцыі Профінтэрну на Польшч. Візыта начальніка літоўскай разведкі палк. Дулькшніса і яго гутарка з начальнікам савецкай разведкі Урыцкім яшчэ болей паглыбіла супрацоўніцтва. Апроч гэтага быў у Коўне шэф сав. беларускае вайсковае акругі Убарэвіч, які ўлажыў з літоўскім штабам супрацоўніцтва на выпадак вайны з Польшчай...

Пішучы аб гэтым, украінская газэта „Нова Зоря“ (15.IV.37) адзначае, што гэтыя падзеі і пляны маюць вялізарнае палітычнае значэньне, бо тое, на што цяпер адважылася Літва, можа вырашыць долю народаў сярэдняй Эўропы. „Крок Літвы — піша „Н. Зоря“ — у яе зблíжэньні да Саветаў, ці лепш кажучы, да Расеі, аж да злуды прыпамінае тое, што зрабіў

гэтман Багдан Хмельніцкі: зьняверыўшыся ў магчымасьць наладжаньня палітычных адносін з тагачаснаю Польшчаю, навязаў з Масквою... Цяпер на нашых вачох тое самае зрабіла на поўначы Літва, што ў 17 стагодзьдзі зрабіла на палудні Украіна".

Высновы, як бачым, робіць „Н. Зоря" вельмі далёкія, на якія цалком трудна згадзіцца. Прадусім няма поўнай аналёгіі паміж сучаснай Літвою і даўнейшай Украінай: Літва ў сучаснасьці аддзелена ад Саветаў Польшчай і мае дагавор з Саветамі, які сьцісла азначае савецка-літоўскую граніцу, а Украіна гэтага ўсяго ня мела. Урэшце мэты тагачаснай Маскоўшчыны і сяньняшняга СССР — розныя і на гэту тэму можна былоб шмат пісаць. Але вернемся да самой справы польска-літоўскага спору і разгледзім сутнасьць яго.

*Сутнасьць спору* ў тым, да каго мае належаць Вільня і Віленшчына, да Польшчы ці да Літвы? Як адна так і другая дзяржава прад'яўляе свае правы, апіраючыся прадусім на гісторыі і на этнографіі.

*Польскія аргументы* такія (гл. „Kur. Wilen." 11. IY. 37) і Польшчына прыйшла ў гэты край прад 5 стагодзьзямі са згоды вялікіх князёў літоўскіх. Цэлы рад польскіх пакаленьняў улажыў сюды шмат культурнай і гаспадарчай працы, праліваючы разам з Літоўцамі кроў у абароне краю. Дзеля гэтага паў стаў над Нёманам і Вяльлёй вялікі здабытак Польшчы, каторага аддаваць Літве яна ня хоча і ня можа.

*Літоўскія аргументы*: У Вільні і Троках паўставалі асяродкі літ. дзяржаўнасьці. Віленшчыну засяляе народ літоўскага паходжаньня, які забыўся роднае мовы. Правам і абавязкам ёсьць адроджанай Літвы вярнуць яго на ўлоньне бацькаўшчыны, адпольшчыць яго і адбеларушчыць, каб Віленшчына ізноў стала неаддзельнай часткай вялікае Літвы, а Вільня была яе сталіцай. Прыгэтым Літва пакліаецца на ўмову ў Спа (ліпень 1920 г.), паводле якой Польшч забавязалася аддаць Вільню Літве і Сувалскае замірэньне (кастрычнік 1920 г.), заключанае тады, калі яшчэ часьць Віленшчыны і Вільня была ў руках літоўскіх,

Гэтак, аб'ектыўна бяручы, прадстаўляецца сутнасьць спору паміж Польшчай і Літвою, прыгэтым Польшч цьвярдзіць, што гэты спор ужо вырашаны, а Літва — што астаецца адкрытым. Аднак характэрнае тое, што польская палітыка дапускае магчымасьць афіцыяльнай і неафіцыяльнай (прэсавай) дыскусіі з гэтай справе. Аб заяве мін. Бэка і аб адказе мін Лозорайтіса мы ўжо ведаем, яны нічога новага нам не сказалі, дый не маглі сказаць дзеля звычайнай дыпляматычнай асьцярожнасьці ўсіх міністраў. Дык зьвернем лепш увагу на тое, што піша прэса. Апроч „Il. Kur. Codz." аб польска-літ. споры многа пісаў у апошнім месяцы „Kurjer Wil." каторы падаў нават голас латвійскае газэты „Briwa Zeme". Гэта апошняя, разглядаючы польска-літ. спор, знаходзіць у ім існаваньне глыбокага этычнага канфлікту, які паўстаў з недахаваньня Польшчай міжнародных трактатаў і забавязаньняў адносна Літвы. „Kurjer Wil." (№ 98) прызнае існаваньне гэтага канфлікту і кажа, што Польшч гатова правесьці над ім дыскусію аж да канца... Разам з гэтым „Kur. Wil." сьцьвярджае, што польска літ. спорам заінтарасаваліся два вялікія асяродкі сусьветнай палітыкі: Парыж і Лёндын. З усяго відаць, што гэты спор уваходзіць у фазу дэцыдуючую.

Якжа-ж да гэтага спору маем аднесьціся мы, Беларусы?

Прадусім трэба сьцьвердзіць, што спор гэты мае для Беларусаў вялікае значэньне, бо датычыць ня толькі Палякоў і Літоўцаў, але і нас, Беларусаў. У беларускай прэсе на гэту тэму пісалася нямнога, але гэта яшчэ ня довад, што бел. грамадзянства гэтай справай ня цікавілася і ня цікавіцца. Гэтага маўчаньня былі іншыя прычыны, аб якіх мы тут пісаць ня будзем. Адзначым толькі, што пасярод бел. незалежнага грамадзянства пагляды на гэту справу бадай аднолькавы, а пасярод залежнага — розныя, залежна ад палітычных кірункаў і ар'ентацыяў.

Праектаў вырашэньня польска-літ. спору было многа, як з боку польскага так і літоўскага і ніводзін з іх ня быў ўведзены ў жыцьцё, апроч праекту марш. Пілсудскага. Які гэта праект — мы ведаем. Паводле яго Вільня і Віленшчына ўлучаны да Польскай дзяржавы. Польшч прынцыпова стаіць і далей на гэтым становішчы. Літва ізноў прынцыпова стаіць на грунце Маскоўскага трактату з 12 ліпеня 1920 г., паводле якога бальшавікі ўступілі Літве большую часьць Віленшчыны і частку Гарадзеншчыны. Гранічная лінія паводле гэтага трактату былаб такая: Браслаў—Паставы—возера Нарач — рака Нарач—рака Бяроза—Нёман — Саколка — Аўгустоў, прыгэтым Браслаў, Ашмяна, Ліда, Горадня, Аўгустоў адыйшлі-б да Літвы. Былі такжа праекты стварэньня віленскага аўтанамічнага кантону, які быў-бы ў залежнасьці як ад Літвы, так і ад Польшчы; быў нават праект падзелу самой Вільні на польскую і літоўскую...

Як бачым, праектаў было многа і бадай усе яны датычаць земляў, заселеных Беларусамі. А там, дзе справа датычыць Беларусаў, справядлівасьць вымагае, каб мелі голас і Беларусы. Тым болей, што праекты вырашэньня польска-літоўскага спору не бяруць пад увагу інтарэсаў Беларускага народу.

*В. Г.*

# На беларускім грунце.

(*Агляд беларускага жыцьця*).

## Хто вінаваты?

Павадыры БНА, апарыўшыся на сваім новым „курсе" і нарабіўшы шмат бяды сваей няўдалай палітыкай, пачалі шукаць прычынаў усіх тых няшчасьцяў, якія ў апошнія месяцы спаткалі беларусаў. Характэрна толькі, што прычынаў усяго таго, што сталася яны ня шукаюць ані ў сваей памылковай палітыцы, ані ў вонкавых абставінах, але ў артыкулах „Бел. Фронту" і „Новага Шляху"! І так, аднаднёўка „Бел. Доля", (якая пасьля канфіскаты была выпушчана ў 2 выданьні нядаўна Бел. Народн. Аб'еднаньнем), ставіць закід, што „Бел. Фр." дзяліў беларускі рух на чужыцкія кірункі і пісаў усякія ілжывыя даносы, аж пакуль ня сталася спыненьне „Бел. Крыніцы" і ўсё іншае.

Адказваючы на гэтыя закіды, мы заяўляем наступнае:

Пачаўшы змаганьне з усімі чужацкімі кірункамі і ар'ентацыямі, якія раз'ядалі і далей раз'ядаюць наш народ, мы ў цэлым радзе артыкулаў выказвалі шкоднасьць гэтых кірункаў для Беларускага народу. Магчыма, што павадыры БНА у гэных артыкулах знайшлі самі сябе. Але паўстае пытаньне, хто тут вінаваты: ці той, хто ар'ентуецца на чужыя сілы, ці той, хто выказвае шкоднасьць гэтых ар'ентацыяў?

Бачучы шкодныя кірункі некаторых бел. палітыкаў, мы, як незалежная беларуская група, маем ня толькі магчымасьць, але і абавязак выказаць перад бел. грамадзянствам шкоднасьць гэтых кірункаў. Калі-б мы гэтага абавязку ня споўнілі, мы таксама шкодзілі-б Беларускаму народу, пакідаючы яго ў нясьведамасьці адносна дарог, якімі яго вядуць павадыры. У гэных артыкулах мы ня пісалі ніякага даносу, бо ўсе ведаюць аб існаваньні гэтых ар'ентацыяў, толькі ня ўсе ведаюць аб іх шкоднасьці. У нас ёсьць і саветафільства, і палянафільства, і літвафільства, і германафільства; аб іх бел. прэса пісала, піша і будзе пісаць і ніхто гэтага не ўважае за данос. Мы з свайго боку ўважаем, што аб шкоднасьці гэных ар'ентацыяў пісаць трэба, бо яны зьбіваюць Бел. Народ з яго незалежніцкага шляху і прывучаюць яго надзеяцца не на свае сілы, а на чужыя (што вось прыдзе нехта і зробіць усё, а нам ня трэба нічога рабіць, толькі „ар'ентавацца"). Гэтакія ар'ентацыі дэмаралізуюць грамадзянства, асабліва моладзь.

А што датыча „людовага" фронту, дык мы ані разу не напісалі аб тым, што БНА належыць ці мае належаць да яго. Падобныя інфармацыі выйшлі зусім з другога боку. Як ведама, кс. А. Станкевіч яшчэ на чатыры месяцы перад выхадам „Бел. Фронту", бо ў лютым 1936 г. падаў да публічнага ведама праз газэту „Poprostu" (з дн. 5. II. 36), што адносіны ягоныя і ягоных груп да „людовага" фронту пазытыўныя... Уважаем, што гэтая інфармацыя была ня толькі шкодная, але і бязглуздная: бо калі няпраўда, што адносіны да „людовага" фронту пазытыўныя,

# Доля шмат-нацыянальных гаспадарстваў.

З гледзішча нацыянальнага гаспадарствы дзеляцца на дзьве групы: 1) гаспадарствы адно-нацыянальныя або суцэльна-нацыянальныя — гэта тыя, ў каторых ёсьць адна нацыя, народ, а прымешка іншых, калі і ёсьць, дык такая малая, што не бярэцца пад увагу; 2) гаспадарствы нацыянальна-мешаныя. Прыкладам гаспадарстваў суцэльна-нацыянальных можа быць цяперака Швэцыя, Норвэгія, Аўстрыя.

Гаспадарствы нацыянальна мешаныя ўзноў трэба падзяліць на: 1) колькі-нацыянальныя і 2) шмат-нацыянальныя. Прыкладам колькі-нацыянальных гаспадарстваў можа быць цяперашняя і даўнейшая Польшча, Румынія, Чэхаславаччына. Добрымі прыкладамі гаспадарстваў шмат-нацыянальных будуць: даваенная і цяперашняя Расея (СССР), Гішпанія, Вялікабрытанія і іншыя.

У гэтым артыкуле зоймемся гаспадарствамі шмат-нацыянальнымі. Паглядзім, якая бывае доля іхняя. Ад найдаўнейшых часоў бачым дзіўное зьявішча: ня было такога шмат-нацыянальнага гаспадарства, каторае-бы раней ці пазьней не развалілася. У старавечныя часы даволі ўспомніць шмат-нацыянальную Асырыю, Мэдыю, Пэрсыю, шмат-нацыянальнае грэцка-македонскае гаспадарства Аляксандра Вялікага ды гаспадарства Рымскае. У сярэднявеччу ўпадае Бізантыя, распадаецца на свае складовыя часьці гаспадарства Караля Вялікага ды вялізарнае гаспадарства арабскае.

Задзержымся крышку на некаторых з навейшых дзяржаў.

У XIV стаг. Туркі находзяць на пярэднюю Азію і Балканскі паўвостраў, заваёвываючы цэлы сьцяг вольных датуль народаў. У 1453 г. здабываюць Туркі сталіцу Бізантыі—Константынопаль. Яшчэ пазьней займаюць Вугрыю, Крым і часьць Украіны. Але ў XIX стаг. з-пад Турэччыны вызваляюцца балканскія народы (Грэцыя, Румынія, Сэрбія, Баўгарыя) ды Эгіпет. У сусьветную вайну з-пад Турэччыны вызваліліся Арабы і некаторыя іншыя народы.

Таксама сусьветная вайна вызваліла ўсе народы, паняволеныя Аўстра-Вугрыяй.

Пасьля адкрыцьця Амэрыкі ў канцы XV стаг. Гішпанія заваявала ў Паўдзённай Амэрыцы шмат амэрыканскіх народаў. Нягледзячы на тое, што Гішпанцы мяшаліся (жаніліся) з заваяванымі народамі, нягледзячы на тое, што гэныя народы прынялі гішпанскую мову, а свае забыліся, ўсёж-такі па нейкім часе яны ад Гішпаніі адлучыліся. А цяперака і паняволеныя Гішпанцамі народы на Пірэнэўскім паўвостраве — Каталёнцы, Баскі, так сама стараюцца вызваліцца ад Гішпаніі. Гэта ім напэўна ўдасца, калі не цяперака, дык за якісь час.

У XIII стаг. новапаўсталае татарскае гаспадарства займае вялізарныя прасторы ад Кітаю да Днястра, паняволіўшы мноства народаў. Ня лішнім будзе гэта адцеміць, што Беларусы, арганізаваўшыся ў сваё гаспадарства, званае Літвой, устаялі тады проці татарскага находу. Неўзабаве Беларусы разам з Літвою вызваляюць ад Татар Украіну. У XV стаг. вызваляюцца ад Татар Маскоўцы ды пазьней нават заваёўваюць татарскія гаспадарствы: Казанскае, Астраханскае, Сібір, Крымскае, Туркестан (заходні) з Хівою і Бухараю.

Маскоўшчына, званая апошнія два вякі такжа Расеяй, як з гледзішча палітычнага, так і цывілізацыйнага, сталася спадкаемніцаю Татар. Ад XV стаг. Маскоўшчына ўсё павялічвалася, забіраючы чужыя землі і народы. Але ў часе Японскай вайны ў 1904 г. настаў запын расейскай захопнасьці. Расея мусіла нат адступіць, уступаючы Японіі паў Сахаліна і зракаючыся Манджурыі. Па сусьветнай вайне ад Расеі адлучылася Польшча і балтыцкае ўзьбярэжжа (Літва, Лацьвія, Эстонія, Фінляндыя) ды скрануліся ўсе паняволеныя народы, ў тым ліку і народ беларускі. Але гэта быў толькі пачатак поўнага распаду Расеі (СССР). Як-бы жадаючы ўсьцерагчыся гэткай долі, Камуністычная Расея ў 1923-28 г. г. дала некаторыя палёгкі паняволеным ёю народам. Хоць гэныя палёгкі былі мізэрныя, то ўсёж-такі ў народаў, ня маючых раней і гэтага, ненавісьць да Расеі стала зьмяншацца і яны сталі быццам схінацца дзяліці з ёю сваю долю ў форме Саюзу. Але Кам. Расея, спалохаўшыся борздага развою „сваіх" народаў, ухапілася за спосаб, што прывядзе яе да распаду: яна пачала іх жорстка прасьледаваць і гэтым самым прымусіла ўсе паняволеныя народы ўсімі спосабамі бараніцца ад сьмерці ў яе граніцах і ісьці да поўнага вызваленьня. З Расеяй мусіць стацца тое, што сталася дагэтуль і робіцца цяпер з усімі вялікімі турмамі народаў — яна мусіць распасьціся, а паняволеныя ёю народы вызваліцца.

Калі-б якое гаспадарства, бачачы вызвольныя імкненьні паняволеных сабою народаў, замест іх ніштожыць, пайшло ім насустрэч, тады адносіны зьмяніліся-б — ня стала-б пана ані нявольніка, дык і ня было-б непрыязьні. Але нажаль з вялікіх шмат-нацыянальных гаспадарстваў толькі адна Англія зразумела гэта. Яна згадзілася на сапраўдную незалежнасьць Канады, Аўстраліі, Новае Зэляндыі, Ірляндыі, Эгіпту, Паўдзённай Афрыкі, а гэтыя ня толькі не парвалі з ёю апошняй сувязі, але нават карыстаюцца апекай гэтай магутнай дзяржавы. І дзеля гэтага Англія не распадаецца. Усякі-ж прасьлед вядзе да скарэйшага распаду шмат-нацыянальных дзяржаў, да якіх належаць Саветы, Гішпанія і інш.

*Адраджэнец.*

то нашто падаваць у газэты, а калі праўда, то нашто хваліцца!

Гэтую інфармацыю, а такжа некаторыя артыкулы „Бел. Крыніцы", уважаем за прычыну ўсіх тых падазрэньняў, якімі цяпер акружана палітыка БНА і ў рэзультаце ёсьць прычынай, побач з вонкавымі абставінамі, ўсяго таго, што сталася...

Уканцы павадырам БНА даём такія рады: 1) не рабіць рызыкоўнае, неабдуманае, „ветрагонскае" палітыкі; 2) сваей палітыкай не хваліцца і ня пісаць на сябе даносаў; 3) ня шукаць віноўнікаў у каго другога, але ў сябе і не звальваць віны з хворае галавы на здаровую... Тады будзе спакайней і вам, і ўсім...

### „25 Сакавіка".

Пад гэтакім назовам выйшаў нядаўна (ў сакавіку) другі нумар (першы выйшаў у прошлым годзе) студэнцкага часапісу, прысьвечанага разьвіцьцю незалежніцкай ідэолёгіі пасярод бел. студэнтаў. Розныя чужацкія ўплывы, якія запанавалі пасярод часткі старэйшага бел. грамадзянства, знайшлі свой водгук такжа пасярод студэнцтва, дзеля гэтага паўстаньне часапісу „25 сакавіка", як проціўвагу гэтым уплывам, трэба толькі прывітаць.

*Зьмест* 2-га сшытка такі: ў перадавіцы „Беларускае Народнае сьвята" рэдакцыя падае гістарычны нарыс і значэньне акту 25 сакавіка 1918 г. У другім артыкуле (дыскусыйным) „Нацыянальная ці сацыяльная праблема" аўтар стараецца разьвязаць пытаньне: на што павінен студэнт Беларус зьвярнуць большую ўвагу, ці на справу нацыянальную, ці сацыяльную, эканамічную? Пасьля доўгіх разважаньняў аўтар прыходзіць да вываду, што ў сучасным палажэньні Бел. народу на першым месцы трэба паставіць справу нацыянальную, а справу сацыяльнай справядлівасьці Бел. народ зможа разьвязаць толькі тады, калі здэцыдуе аб сваім лёсе, інакш кажучы, калі мецімe незалежнасьць. У трэцім артыкуле „Расізм, гітлероўскі сьветапагляд", рэд. В. Папуцэвіч даволі рашуча распраўляецца з ідэолёгіяй гітлерызму, а мімаходам і камунізму. Артыкул цікавы і заслугоўвае на большую ўвагу.

Прычынаў гітлерызму (расізму) аўтар шукае ў заўсёдным разбіцьці германскага народу на пасобныя варожыя групы і ў пашырэньні камунізму, які ніштожыць нацыі. Камунізм ад самага пачатку свайго дзеяньня, як рэакцыя проціў лібэралізму XIX стагодзьдзя, стараўся бурлівым спосабам здушыць чалавечую натуру і прытасаваць вечна-цякучае жыцьцё ў застылыя рамкі марксоўскіх догмаў — і гэтым самым выклікаў ня менш бурлівую контр-акцыю, рашучы бунт з боку самага жыцьця і здушанага чалавечага духа. Цікава і характэрна, што рэакцыя гэта ня выйшла ані ад прадстаўнікоў рэлігіі, ані ад буржуазіі, ані ад інтэлектуалістаў (вучоных), але ад прадстаўнікоў пралетарыяту: Муссоліняга і Гітлера. (Муссоліні, як ведама, ёсьць сынам вясковага каваля, а Гітлер — бялільнік і маляр пакояў). Яны ўтапійнай тэзе аб сусьветнай салідарнасьці працоўных паставілі болей рэальную антытэзу: дабро народу, нацыі, а сусьветнай рэвалюцыі пралетарыяту проціўставілі ня менш дынамічную і консэквентную народную рэвалюцыю. Камунізм уважае нацыю за нешта ня-істотнае, другараднае, стаўляючы на першае месца сусьветную рабочую клясу і міт яе салідарнасьці, а фашызм і расізм ёсьць праявамі найбольшага патрыятызму, які пры помачы народнай рэвалюцыі творыць магутнасьць свае дзяржавы — бацькаўшчыны. Але, з другога боку, як камунізм творыць міт калектыўнай працы, так расізм—міт аднолькавай крыві і расы. На гэтай плошчы і камунізм і расізм падобныя, аднолькавыя: за мэту сваей дзейнасьці бяруць абсурд, фікцыю, міт. Камунізм кідае клічы бязупыннай барацьбы клясаў, а расім—барацьбы расаў. Атакі расізму на рэлігію (хрысьціянства) не слабейшыя ад баявых удараў перадавых бязбожнікаў СССР. Навука мае такжа служыць мэтам нордыцкае, германскае расы. Аб'ектывізм даўно ўжо закінены ў гітлероўскіх вучоных. Толькі тая навука мае вартасьць, якая служыць падтрыманьню духа і расы, якая падмацоўвае гітлероўскую тэорыю барацьбы расаў. (Тое самае ў камуністаў адносна барацьбы клясаў). Паводле расізму, для германскага народу трэба зямлі, ня людзей; гэтых апошніх трэба ніштчыць агнём і мячом для выключнага панаваньня аднэй вартаснай нордыцкай расы. Тымчасам чыстасьць расы — гэта міт, фікцыя, а раздуваньне фікцыі прынясе ў рэзультаце фікцыю. Будаваць трэба магутнасьць нацыі на аснове лучнасьці ўсіх вартасьцяў народу пры адсутнасьці нутраной барацьбы. Гітлерызм поўны розных супярэчнасьцяў: ён абвяшчае еднасьць нацыі і расавую барацьбу, культ ідэі і запярэчаньне спірытуалізму, ідэалізм і матэр'ялізм (расізм), поступ у галіне тэхнікі і паварот да варварства — дзеля гэтага, паводле аўтара, гітлерызм не пераможа марксаўскага камунізму. Кансеквэнтнаму матэр'ялізму проціўставіць трэба ня менш кансэквэнтны ідэалізм. З гэтай прычыны аўтар лічыць італьянскі фашызм за мацнейшую антыкамуністычную ідэолёгію. У канцы артыкулу аўтар кажа, што ў Бел. народзе і камунізм і расізм разьвівацца не павінны. Камунізм імкнецца да зьніштажэньня Бел. народу, як нацыі (што і адбываецца ў БССР), а расізм будуе магутнасьць нацыі на фікцыі аднолькавасьці крыві і расы (і таксама на зьніштажэньні другіх народаў!). Адраджэньне Беларусі надойдзе, калі ўсе яе сыны адродзяцца ў ідэі, калі, адкінуўшы чужацкія міты за найвышэйшае дабро свайго жыцьця і дзеяньня паставяць дабро цэлага Беларускага народу і службу Беларускай Нацыі.

Затрымаліся мы даўжэй над гэтым артыкулам, бо ён варт гэтага. Хоць і ня з усімі сказамі можна ў ім згадзіцца, то ўсёжтакі ня можна адмовіць яму глыбіні і арыгінальнасьці думак.

Гэтакае самае глыбокае псыхолёгічнае ўняцьце мае і наступны артыкул А. Кумшы „З псыхалёгіі сучаснага рэлігійнага індыфэрэнтызму".

Уканцы пададзена хроніка віл. студэнцкага жыцьця. Наагул зьмест часапісу робіць саліднае ўражаньне.

На наш пагляд, часапіс заслугоўвае на асабліўшую ўвагу затым, што ён ёсьць незалежны ад чужых сілаў і зьяўляецца саматужным выпладам студэнцкай думкі. Да заган трэба залічыць неакуратную карэкту і мала выробленую бел. мову. Пажадана было-б такжа ня ўжываць чужых слоў, якія можна замяніць беларускімі. Спадзяёмся, што ў наступных нумарох і гэтыя заганы будуць ухілены.

### Выбары ў Бел. Студ. Саюзе.

У гэтым-жа нумары „25 Сакавіка" знаходзім такую вестку: „14. III. сёл. адбыўся звычайны агульны сход БСС у VI салі Віл. Унівэрсытэту. Прысутных было 40 сяброў з рашаючым голасам. Сёлетні сход быў асабліва бурлівы з прычыны змаганьня дзьвёх студэнцкіх групаў: нацыяналістаў і „радыкалаў". Найбольш дынамічнай была справа выдаленьня аднаго сябры за шкодную дзейнасьць у Саюзе. Пад прэсіяй расколу ў БСС прымушаны быў выступіць памянёны сябра з Саюзу і гэтым уратавалася цэласьць арганізацыі БСС. У перавыбарах завастрыліся змаганьні. Па цэлым радзе прадвыбарчых прамоваў як з аднаго так і з другога боку быў выбраны новы ўрад БСС у гэткім складзе: А. Дасюкевіч—старшыня, М. Канцэлярчык, В. Жукоўская, В. Клім і А. Засім—сябры ўраду. Характэрная рэч, што ўсе амаль БНА-цы (быўшыя хадэкі) на агульным сходзе салідарызаваліся з „лявіцай" проціў нацыяналістаў!

Гэтак піша „25 Сакавіка". Ад сябе дадаём, што гэтая салідарнасьць „хадэкаў" з „лявіцай" ёсьць ня толькі характэрнай, але і сумнай праявай сяньняшняга бел. жыцьця, бо яна зьбівае „хадэцкую" моладзь з незалежніцкага шляху.

Даказам гэтага ёсьць удзел сёлета ў першамаёвым паходзе ў Вільні „хадэцкіх" студэнтаў пад сьцягам польскай арганізацыі ZZZ (Związku Zw. Zawodowych), разам з бел. „лявіцай". Асабліва зварочваў увагу ўсіх ўдзел у паходзе аднаго студэнта, які ёсьць сябрам рэдакцыйнай калегіі „Хрысьціянскай Думкі"...

### Ізноў спыненьне Б. „Крыніцы".

Як мы ўжо пісалі, „Б. Крыніца" пасьля „адвешаньня" пачала выхадзіць ізноў. Вышла ў гэтым годзе 4 нумары; аднак у канцы красавіка „Б. Кр." была ізноў „завешана" судовымі ўладамі.

Вышла аднаднёўка пад назовам „На беларускім палетку".

### Гістарычныя адкрыцьці ў Давідгарадку.

Летась (1936 г.) увосень, закладаючы фундаменты пад царкву на Замковай гары ў Давідгарадку, знайшлі там грабы давідгарадоцкіх князёў з в.—XI ці XII. Менаванае адкрыцьце ў гэтым старым беларускім месьце належыць да найцікаўшых у Эўропе. Нажаль адносіны да гэтага адкрыцьця некаторых польскіх дзейнікаў і польскае навукі не такія, як павінны быць. Даведваемся аб гэтым з „Słowa" (17. IV. сёл.)

Трэба было—подле „Słowa"— забясьпечыць і навукова дасьледаваць адкрыцьці, а тады далей ставіць царкву, а ў ёй памясьціць маўзалей з грабамі давідгарадоцкіх князёў. Але ўлада зрабіла інакш: забараніла ставіць царкву і не забясьпечыла адкрыцьцеў. Тымчасам „дзерава, з каторага быў пастаўлены старавечны замак, расьцягалі... на апал". „Трудна выбачыць—піша „Słowo" — паном профэсарам, дактаром і дырэктарам у Варшаве, калі ня хочуць зразумець навуковага значэньня адкрыцьця, каторае спэцыялісты схінаюцца назваць эпохальным".

Далей «Słowo» выясьняе прычыну гэткіх адносінаў: «Стаўся гэткі прыпадак: Адна з радыёстанцыяў манілася памясьціць рэфэрат аб гэтых цікавых выкопах на прасторы Рэчыпаспалітай. Але быццам дырэктар радыёвага цэнтру ў Варшаве, скрывіўшыся заявіў:

„Ээ... панове... гэта нейкія князі паходжаньня быццам кіеўскага... гэта ня былі... Палякі" і радыёстанцыя рэфэрату не дала.

А беларуская навука ў гэтай справе нічога цяпер зрабіць ня можа, бо ня толькі што ня мае патрэбных матар'яльных спосабаў, але і не ад нас залежыць выдаваць тыя ці іншыя загады.

### Павал Пракапеня.

Надовячы ў Вільню быў прыехаўшы слаўны пяюн, каторага польскія газэты завуць Пракапені; тымчасам запраўды ён завецца Пракапеня. Гэта Беларус (насьведамы? спалячаны?). Паходзіць ён із Косаўскага павету, адкуль і Забэйда-Суміцкі. Так сталася, што, калі яшчэ Пракапеня быў хлапцом сіратой, ім прыпадкам заапекаваліся некаторыя Палякі. З гэтае прычыны ладная часьць дагэтуляшняй кар'еры нашага мастака праходзіла сярод Палякоў. П. Пракапеня здабыў сабе ўжо славу. Выступаў ён у Вене, Рыме, Бэрліне.

Зацемім тутка, што прозьвішчы як *Пракапеня*, *Васіленя* і пад. арыгінальна беларускія. Паўсталі яны з называньня дзіцяці (дзіця Пракапова, Васілёва і інш., прыкл. *дзіцяня*, *гусяня* або дзіцянё, гусянё), так як прозьвішчы на-*онак* (Пракапёнак) паўсталі з называньня сына. Нашыя прозьвішчы на -*еня* ня маюць нічагусенькі супольнага з італьянскімі на -*ні*.

## З жыцьця БССР.

Жудасныя весткі надыйшлі аб арыштах некаторых беларускіх дзеячоў у Сав. Беларусі, асабліва-ж бел. пісьменьнікаў. Савецкая прэса прынесла вестку аб арыштах найлепшых беларускіх пісьменьнікаў. І так арыштаваны: *М. Зарэцкі*, *М. Лынькоў*, *М. Чарот*, а разам з імі меней выдатныя, як: *Баранавых*, *Дудар*, *Вольны*, *Хадыка*, *Сташэўскі*, *Кляшторны*, *Скрыган*, *Званок* і інш. Арыштаваны такжа ведамы пісьменьнік *Зьмітра Жылуновіч* (*Цішка Гартны*), найстаршы бел. камуніст і першы прэм'ер бел. камуністычнага ўраду (1919 г.).

Ня ведаем добра, у чым вінаваціць іх маскоўская камуністычная ўлада, але напады на іх у прэсе БССР нічога добрага ім не варожаць. Перад іх арыштаваньнем два маскоўскія прыслужнікі: А. Александровіч, ведамы русыфікатар беларускай мовы і Кучар—жыд, крытык бел. літаратуры, выступілі у „Зьвязьдзе" (з 24-26 III. г.г.) з абвінавачаньнем вышэйменаваных пісьменьнікаў. Як толькі яны там ня лаюць арыштаваных! Тыя і „агідныя гадзіны" і „контр-рэвалюцыянэры ад пачатку бальшавіцкае ўлады" (аб Жылуновічу), і „нацыянал-фашысты" і „здраднікі народу" і інш. Усё гэта падаецца бяз ніякіх довадаў. Дык прычына арышту ў тым, што яны „выступаюць з выпадамі найагіднейшай формы супроць магутнай расейскай культуры, супроць магутнага расейскага народу" (Кучар у „Зьвязьдзе" з 26. III. г.г.), З гэтага ясна, што арыштаваныя стаялі на беларускім грунце і не хацелі прымаць удзелу ў аканчальнай русыфікацыі Беларусі, хоць і прызналі зьмену граматыкі бел. языка, праведзеную дэкрэтам ў 1933 г. і падтрымлівалі камуністычную ўладу.

Ужо восьмы год (ад 1929 г.) як мы зьяўляемся сьведкамі жорсткага ніштажэньня беларускага народу ў СССР. Масавыя арышты, растрэлы або выгнаньне беларускай інтэлігенцыі, высыланьне дзесяткамі тысяч на ўсход беларускіх сялян, а прысыланьне на іх месца ў Беларусь чужнікоў — усё гэта кам. улада праводзіць плянова і сыстэматычна. Даволі успомніць, што зрабілі з „грамадаўцамі" і «змаганцамі»! Дык як трэба назваць у нас тых беларусаў, якія яшчэ цяпер ар'ентуюцца на Саветы?.

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га чэрвеня.*

# На міжнародным грунце.

(*Агляд міжнароднай палітыкі за месяц красавік*).

### На гішпанскім палігоне.

Гішпанію называюць палігонам дзеля таго, што там адбываюцца ўжо 9 месяц міжнародныя манэўры, у якіх бяруць удзел бадай усе народы Эўропы, нішчачы край. Хоць ад 19. IV. абавязуе кантроля гішпанскіх берагоў, якая мае не дапусьціць туды помачы звонку, гэтая помач, як чуваць, едзе, плыве і ляціць з ўсіх бакоў і ўсімі дарогамі. На мадрыцкім фронце цяпер спакойна, толькі час да часу налятаюць аэрапляны

